*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 27(412)** **7 ЛІПЕНЯ 1999 г.**

## Малітва за беларускую мову

**О, Усемагутны Божа, уладар неба і зямлі!**

**З дзіцячым даверам маім Цябе прашу: не пакідай нас і заставайся з намі. Выслухай жа нашыя малітвы: няхай людзі, расплюўчыўшы вочы, убачаць, на якой цудоўнай зямлі яны жывуць, і пачуюць, на якой мілагучнай мове яны могуць размаўляць. Бацька наш, Ты ўвесь свет стварыў і Духам Святым усё прасвяціў, ажывіў і ўпрыгожыў. Просім Цябе: надзялі ўсіх нас сілаю, бязмежным даверам, ахвярнаю шчырай любоўю да Бацькаўшчыны, дзе мы нарадзіліся, ды той мовы, якая засталася нам у спадчыну ад нашых продкаў-беларусаў.**

**Мы, дзеці беларускага народа, імкнемся сумленна выконваць волю Тваю і запаветы Твае. У шчырай пакоры просім Цябе: злітуйся над тымі, хто адрокся ад сваёй мовы, даруй ім грахі, бо ці ёсць большы грэх, чым адрачэнне ад продкаў сваіх, ад каранёў, што жыццё нам далі. Прасвятлі Госпадзі, іх розум, здымі чорную смугу з вачэй іхніх. Хай узгадаюць, адкуль яны, хто яны, хай не цураюцца сваёй мовы, сваёй радзімы. Божа міласэрны, злітуйся над тымі, хто зневажае нашую мову, наш народ, нашую гісторыю, не карай іх жорстка, бо не ведаюць яны, што твораць.**

**Прашу Цябе, Святы Уладыка, пашлі нашаму народу еднасць, згоду і паразуменне нашым людзям у дачыненні да сваёй Радзімы Беларусі.**

**Ухвалі, Ойча, працу настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных і ўсіх іншых патрыётаў-беларусаў на карысць Адраджэння мовы нашай беларускай.**

**О, наймагутны Божа, зрабі так, каб мы, дзеці Беларусі, ніколі не пакідалі нашай беларускай мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе. А таксама не пакінь, Божа, тых, хто смуткуе і тужыць па сваёй Радзіме, і асабліва тых, хто аддаўся спакусам, што адводзяць ад веры ў Беларусь. Пашлі беларускаму народу сваіх служак, якія набожным жыццём вялі б наш люд да лепшае долі, да свядомага служэння Айчыне. Пачуй, Божа, малітву маю і зрабі тое, пра што прашу! Амэн.**

**(Марыя Заяц, вучаніца 9 класа СШ № 169 г. Менска)**

## Ёсць Менская абласная арганізацыя ТБМ

Згодна рашэнню Рэспубліканскай Рады ТБМ 20 чэрвеня адбылася ўстаноўчая канферэнцыя ТБМ Менскай вобласці. А ёй прысутнічалі дэлегаты з Жодзіна, Маладэчна, Менска, Салігорска, Смілавіч, з вёсак Новы-Свержань і Налібокі, з пасёлка Лясны, што пад Менскам.

Абласная Рада выбрана ў складзе 7 чалавек:
Генадзь Банкевіч – Менск;
Віктар Бернацкі – Маладэчна;
Зміцер Гурневіч – Налібокі;
Лявон Кавальчук – Жодзіна;
Марыя Мацюкевіч – Салігорск;
Уладзімір Содаль – Менск;

Старшынёй Рады выбраны Генадзь Банкевіч, намеснікамі – Марыя Мацюкевіч, Віктар Бернацкі. Скарбнікам абрана Святлана Мінакова, а рэвізорам – Святаслаў Палівода.

Акрамя арганізацыйных пытанняў на канферэнцыі разглядзелі пытанне аб святкаванні 10-годдзя з дня заснавання ТБМ і аб падпісцы на газету "Наша слова". Вырашана падпісаць на згаданую газету ўсе бібліятэкі раёнаў.

На канферэнцыі прысутнічаў і выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў. Ён давёў да ведама дэлегатаў рашэнні Сакратарыята ТБМ па актывізацыі дзейнасці першасных арганізацый у святле бяздзейнасці ўлады па спыненню русіфікацыі і працягу наступу на нацыянальныя святыні. Дэлегатам раздадзены бланкі для збору подпісаў за стварэнне Нацыянальнага ўніверсітэта і пратэсту супраць змены назвы праспекта Ф.Скарыны.

***Мікола Лавіцкі,***
***першы намеснік Старшыні ТБМ.***

## З беларускім словам да новай царквы



На царкоўнае свята Сабору ўсіх беларускіх святых, 20 чэрвеня, упершыню на тэрыторыі Гарадзенскай епархіі была адслужана літургія на беларускай мове.

Да гэтай пары ў праваслаўных храмах Горадні службы вяліся на царкоўнаславянскай мове. Незвычайная падзея ў жыцці гарадзенскіх вернікаў была звязана з асвячэннем месца будоўлі новага храма. У святочную нядзелю, пасля літургіі па-беларуску ў Каложскай царкве, некалькі соцень вернікаў крыжовым ходам прайшлі да Каложы ў мікрараён Вішнявец, дзе запланавана будоўля новага храма – Сабору Усіх Беларускіх Святых. Як сказаў ігумен Каложы айцец Аляксандр: "Ад сэрца горада, якім усё-ткі з'яўляецца не Скідальскі рынак і не плошча Леніна, а Каложа, ад самага старажытнага храма крыжовы ход праклаў шлях да храма новага. Літургію на беларускай мове блаславіў епіскап уладыка Арцемій. Напэўна, для гэтага наспела патрэба". Дарэчы быў устаноўлены крыж формы крыжа Ефрасінні Полацкай.

Будаўніцтва царквы ў Вішняўцы яшчэ не пачалося. Сродкі на гэтую справу можна ахвяраваць у Каложы ці ў скрыню ва ўніверсаме "Брэст".

***Алена Сіневіч.***

## Латвійская суполка ТБМ актывізавала сваю дзейнасць

5 чэрвеня 1999 г. сядзіба ТБМ у Менску гасцінна прымала сяброў і прыхільнікаў нашага Таварыства, якія стала жывуць у Латвіі. У склад беларускай дэлегацыі з суседняй краіны ўвайшлі прадстаўнікі суполкі ТБМ "Прамень" з Рыгі на чале са старшынёй рады сп. Алесем Карповічам, а таксама некалькі жанчын з былога Дзвінска (зараз г.Даўгаўпілс). Старшыня ТБМ Алег Трусаў расказаў пра сітуацыю на Беларусі, уручыў прысутным па асобніку двух апошніх нумароў "Нашага Слова", а таксама брашуры, слоўнікі і падручнікі на беларускай гісторыі і мове. Потым ён правёў цікавую экскурсію па гістарычных мясцінах Верхняга горада.


ГАЗЕТА БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ
ПРАМЕНЬ

"BELARUS EXPO"

7 чэрвеня Алесь Карповіч наведаў Ліду і перадаў у рэдакцыю "Нашага слова" апошнія нумары штомесячніка "Прамень", які выпускаецца суполкай у Рызе.

А днямі старшыня суполкі ТБМ "Прамень" у Рызе Алесь Карповіч патэлефанаваў у рэдакцыю "Нашага слова" і паведаміў што беларусы Латвіі падпісалі 30 асобнікаў нашай газеты. Паколькі ў Латвіі выпісаць "Наша слова" не магчыма, то газеты будуць паступаць у Браслаў, а адтуль будуць забірацца ў Даўгаўпілс і часткова перадавацца ў Рыгу, а часткова распаўсюджвацца на месцы.

***Наш карэспандэнт.***

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Як тут не ўспомніць словы вядомага палымянага змагара за адраджэнне беларускай мовы прафесара Леаніда Лыча: "Прыглядзіцеся, якая хіпленькая ў беларусаў нацыянальная свядомасць! Такіх здэбеларусаваных палітыкаў усіх рангаў, такой здэбеларусаванай інтэлігенцыі, асабліва ў яе самых верхніх зрэзах, у нашай краіне яшчэ ніколі не было…" Дык будзем жа памятаць прарочыя словы Францішка Багушэвіча: "Не забывайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі…" Бо тады разам з мовай знікае і сам яе носьбіт – беларускі народ.

**Мікола Кутнявецкі**
**"Народная воля" 23.06.99г.**

*На думку многіх святароў, для таго каб парафіяне, лепш разумелі сутнасць літургіі, яна павінна ісці на беларускай мове.*

*Касцёлы жадаюць весці літургію на беларускай мове.*
***"Навіны" 23.06.99г.***

Душа ж, як вядома, без мовы не бывае, яна яе своеасаблівая вопратка, на якой беспамылкова пазнаецца прадстаўнік кожнага народа.

**Яўген Лецка**
**"Народная воля" 29.06.99г.**

## БАЖ дапамагае"Нашаму слову"

Ужо другі раз Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) падтрымлівае газету "НС", выдзяляючы грошы на яе падпіску.

З дапамогай БАЖ Сакратарыят ТБМ здолеў падпісаць на III-квартал 1999г. 820 гарадскіх, раённых і сельскіх бібліятэк ва ўсіх абласцях Беларусі. Бясплатную падпіску атрымалі:

**Віцебская вобласць:**
1. Полацкі р-н– 33
2. Расонскі р-н – 4
3. Гарадоцкі р-н – 78
4. Докшыцкі р-н – 6
5. Глыбоцкі р-н – 1

**Магілёўская вобласць:**
1.Бабруйскі р-н, Бабр-ск –14
2. Мсціслаўскі р-н – 26
3. Клімавіцкі р-н – 1
4. Касцюковіцкі р-н -- 1
5. Хоцімскі р-н – 26
6. Кіраўскі р-н -- 1
7. Крычаўскі р-н -- 1
8. Краснапольскі р-н -- 1
9. Чавускі р-н -- 1
10. Чэрыкаўскі р-н -- 1
11. Бельніцкі р-н -- 1
12. Шклоўскі – 33

**Менск , Менская вобласць:**
1.Школы Лен-скага р-на – 25
2. Школы іншых р-наў – 10
3. БУК – 1
4. Аддзел адукацыі (Лен.р-н), біб-кі – 12
5. Нясвіжскі р-н – 16
6. Мар'іна Горка -- 1
7. Вілейскі р-н -- 1
8. Капыльскі р-н -- 1
9. Заслаўскі р-н -- 1
10. Смалявічскі р-н -- 1
11. Жодзінскі р-н -- 1
12. Барысаўскі р-н -- 1

**Берасцейская вобласць:**
1. Камянецкі р-н – 51
2. Пінскі р-н – 63
3. Баранавіцкі р-н – 12
4. Кобрынскі р-н – 28
5. Бярозаўскі р-н – 3
6. Івацэвіцкі р-н – 2
7. Іванаўскі р-н – 1
8. Столінскі р-н – 2
9. Берасце ЦГБ – 1
10. Ляхавіцкі р-н – 1
11. Маларыцкі р-н – 1
12. Лунінецкі р-н – 1
13. Пружанскі р-н – 1
14. Жабінкаўскі р-н – 1

**Гарадзенская вобласць:**
1. Лідскі р-н , Ліда – 114
2. Зэльвенскі р-н — 18
3. Смаргонскі р-н – 1
4. Бераставіцкі р-н – 26
5. Навагрудак ЦБС – 1

**Гомельская вобласць:**
1. Лельчыцкі р-н – 19
2. Светлагорскі р-н – 31
3. Рэчыцкі р-н – 9
4. Жлобінскі р-н – 56
5. Мазырскі р-н – 45
6. Калінкавіцкі р-н -- 1
7. Чачэрскі р-н -- 1
8. Веткаўскі р-н -- 1
9. Светлагорскі р-н -- 1
10. Гомель -- 1
11. Жыткавіцкі р-н -- 1
12. Тураўскі р-н -- 1
13. Буда-Кашалёўскі р-н -- 1

ТБМ выказвае шчырую падзяку Прэзідэнту БАЖ сп. Ж.Літвіной, за падтрымку і супрацоўніцтва.

Разам з тым рэдакцыя загадзя просіць прабачэння ў чытачоў за магчымыя недакладнасці гэтай табліцы. Падпіска ішла ў некалькі этапаў і таму, безумоўна, хапіла блытаніны. Дакладныя звесткі пра агульны стан падпіскі мы падамо ў наступным нумары.

№ 27(412) 7 ЛІПЕНЯ 1999 г. НАША СЛОВА

# Маральны абавязак--дапамагаць беларускай справе

"НС" вырашыла узяць інтэрвію у цікавага чалавека які не з'яўляючыся сябрам ТБМ па-свойму змагаецца за родную мову. Васіль Петруковіч ужо больш года кожны месяц пералічвае грошы на дзейнасць Таварыства.

***1.Сп. Васіль скажыце калі ласка колькі слоў пра сябе.***

Нарадзіўся я ў Пінскім раёне ў вёсцы Камень, дарэчы ў суседнім раёне ад вёскі, дзе нарадзіўся Я.Колас. У сям'і нас было трое, я і браты Юра і Саша.

Працую кіроўцам у тралейбусным дэпо №3 ужо 15 гадоў.

***2.Чаму вы вырашылі дапамагаць ТБМ і на працягу якога часу вы гэта робіце?***

Аднойчы ўбачыў у газеце "Навіны" просьбу ТБМ аб дапамозе. Мяркую, калі ты лічыш сябе беларусам, то твой маральны абавязак дапамагаць беларускай справе. Я працую шмат часу і асабіста ўдзельнічаць у мерапрыемствах Таварыства не магу, таму лічу патрэбным дапамагаць адраджэнню мовы матэрыяльна, ужо 16 месяцаў з кожнага заробку пералічваю тысяч па 600.

***3.Чаму і калі вы прыйшлі да Беларушчыны?***

З пачаткам перабудовы пачалі друкавацца матэрыялы без цэнзуры, у тым ліку па гісторыі Бацькаўшчыны, пакрысе пачало адраджацца духоўнае жыццё, наша мова. А зараз, што робіцца, калі прайсці па Менску нельга пачуць беларускага слова, на кожным кроку расейшчына, мат. Нашы суседзі ўсе на сваіх мовах размаўляюць, на Украіне дзеці вучацца ўжо толькі на сваёй мове. А



**Васіль Петруковіч**

расейская мова, яна і так зразумелая. Тэлебачанне, радыё амаль, што цалкам на расейскай мове. Хай бы дзеці замест яе вывучалі яшчэ якую еўрапейскую мову.

***4. Ці верыце ў Бога і да якой канфесіі сябе адносіце?***

Я хрышчоны ў праваслаў'е, але больш падабаецца каталіцкі касцёл. Лічу, што храм знаходзіцца ў душы чалавека. Калі чалавек ходзіць у царкву, а пасля забываецца пра Бога, то які толк, што ён туды ходзіць, галоўнае быць сумленным перад Богам у сваёй душы.

***5.Як вы лічыце павінны дзейнічаць беларусы ў сённяшні неспрыяльны для ўсяго беларускага час?***

Да Беларушчыны трэба ісці праз біблейскія запаветы, калі мы будзем праяўляць дабрыню, то людзі пацягнуцца да беларускага. А калі агрэсіяй адказваць на агрэсію атрымаецца толькі горш.

***6. Чаго б вы хацелі пажадаць сабе і беларускаму народу.***

Калі б я працаваў у нармальнай краіне, то за 15 год працы на дзяржаўным прадпрыемстве мог бы купіць сабе жыллё і не толькі. Мы працуем толькі на свой страўнік, а заезджыя гандляры з поўдню пачуваць сябе на нашай зямлі гаспадарамі жыцця. Калі б у нас было б беларускае кіраўніцтва такога б не было. Хацелася б пажадаць свайму народу, каб мы беларусы нарэшце сталі б на сваёй Беларусі гаспадарамі.

*Алесь Гурыновіч.*

# Каб жыла беларуская школа

У рэдакцыю "Гродзенскай праўды" паступіў ліст ад 45 выкладчыкаў ВНУ г. Горадні. Сярод яго аўтараў кандыдат філалагічных навук, прафесар А.Пяткевіч, доктар медыцынскіх навук, прафесар А.Астроўскі, кандыдат біялагічных навук, дацэнт В.Лучко, кандыдат гістарычных навук, дацэнт М. Васілючак, кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт А.Каладзінскі, доктар юрыдычных навук, прафесар М.Сільчанка, доктар філалагічных навук, прафесар П.Сцяцко, кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт В. Міхальчык, доктар філалагічных навук, прафесар І.Лепешаў, кандыдат філасофскіх навук Л.Мельнікава і іншыя.

Становішча, якое склалася сёння, напярэдадні новага навучальнага года ў школах г.Горадні, выклікае ў іх глыбокую грамадзянскую і чалавечую трывогу. Як лічаць аўтары ліста, ідзе арганізаваны масаваны наступ на нацыянальнае школьніцтва. Усяляк абмяжоўваюцца наборы ў 1-ыя класы з беларускай мовай навучання. Вучні 2-4 класаў, якія ўжо не адзін год вучыліся на мове сваёй Бацькаўшчыны, пераводзяцца цаной балючай ломкі дзіцячых душ на расейскую мову. У тых лічаных школах горада, што зберагліся як беларускія, загадна- адміністрацыйнымі мерамі адкрываюцца расейскія класы (у расейскіх жа школах мешаніна моваў выкладання не дапускаецца).

Група выкладчыкаў ВНУ г.Горадні пратэстуе супраць разбурэння беларускага школьніцтва ў горадзе, дзе здаўна былі моцныя традыцыі нацыянальнай культуры, дзе навучанне роднай мове склалася ў апошнія гады, як разгорнутая нармальная педагагічная сістэма і прыносіла толькі радасць вучням. Спытайце, дарэчы, пра гэта ў іх, у дзяцей.

Аўтары ліста звяртаюцца да кіраўніцтва школ і органаў народнай адукацыі з патрабаваннем захаваць беларускія школы і лічыцца з волевыяўленнем бацькоў, іх канстытуцыйным правам вучыць дзяцей на мове свайго народа. Гэтае права мае кожны, нават калі яго дзіця адзінае ў класе хоча вучыцца па-беларуску.

Выкладчыкі ВНУ заклікаюць бацькоў задумацца пра будучыню сваіх дзяцей, якім жыць у XXI стагоддзі, у дэмакратычнай і прававой Беларускай дзяржаве. Мова бацькоў, дзядоў, прадзедаў — найвышэйшая каштоўнасць усякага чалавека. Не адбірайце яе ў сваіх дзяцей, не абкрадайце іх духоўна, не старайцеся, каб яны выраслі людзьмі без роду-племені, гаворыцца ў лісце.

**Вы хочаце вучыцца па-беларуску? У нашым горадзе ёсць нямала бацькоў, чые дзеці хацелі б вучыцца ў беларускамоўных класах. Але сёння гэтае пытанне няпростае для гарадзенцаў...**

**Зацікаўленым у навучанні на беларускай мове ў падрыхтоўчых і першых класах просім звяртацца па тэлефонах:**

**2-10-54 (Бацькоўскі камітэт белкласаў Кастрычніцкага р-на, званіць пасля абеду, спытаць Таццяну);**

**4-09-64 (Гарадская рада ТБМ).**

**Школы, якія зацікаўленыя ў стварэнні бел. класаў: Ленінскі р-н, СШ № 32, Кастрычніцкі р-н, СШ № 26.**

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічныхнавук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Шаноўнае спадарства! Прафесар Сцяцко надаслаў у рэдакцыю працяг сваёй працы пра нормы беларускай мовы і паводле шматлікіх просьбаў нашых чытачоў мы памалу пачынаем яе ізноў друкаваць.***

***Таксі, таксоўка, легкавік.*** Слова ***таксі,*** як нескланяльнае, для народнае мовы нехарактэрнае. Пад уплывам слова ***машына*** (як родавай назвы) яно стала набываць форму жаночага роду – шляхам суфіксацыі (суфікс ***–оўка***): ***таксі > таксоўка***. У гаворках гэтае слова мае шырэйшае значэнне – ***"легкавы аўтамабіль"***. Так, у нашай кнізе "Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвеншчыны" (Мн., 1970.С.159) засведчана: *"Таксоўка, -аў, ж. Легкавы аўтамабіль. На таксоўцы, як пан ездзіць. Зл."* У Заходняй Беларусі гэтае слова вядомае з другой паловы 30-х гадоў. Прыйшло з польскае мовы, дзе таксама перш мела значэнне ***"легкавы аўтамабіль"*** (пазней у літаратурнай мове замацавалася з значэннем ***"таксі"***).

У сучасных пісьменнікаў яно нярэдка выкарыстоўваецца і ў аўтарскай мове паралельна з наватворам ***легкавік*** (узнікла шляхам кандэнсацыі апісальнае назвы ***легкавы аўтамабіль: легкав –ік***). Вось некаторыя прыклады тэкстаў з гэтымі словамі. "Дзе тут паспееш... Хіба на таксоўцы" (Уладзіслаў Рубанаў. Укус змяі // Полымя. 1995. № 6. С.116). "Пабачылі б вы, якія вялізныя і прыгожыя ў іх (амерыканцаў) дамы, у кожнага дарослага – шыкоўны легкавік" (Народная воля. 29.07.1998.С.3.).

***Радзінны дом і бацькоўскі дом.*** Слова ***радзінны*** падае ТСБМ, толькі з значэннем *"які мае адносіны да радзін"*. Радзінныя песні. Радзінная паэзія (Т.4.1980. С.555). БРС – 89 бачыць у гэтым слове два значэнні: "Радзінны фольк. 1.Родинный; 2. Крестильный; радзінныя песні – родинные (крестильные) песни (с. 347)".

У гэтым выпадку ***радзінны*** ўтворана ад ***радзіны*** *"нараджэнне дзіцяці"*; сямейнае святкаванне народзінаў': ***радзін (ы) –ны***.

У сучасным друку слова ***радзінны*** выкарыстоўваецца і з іншым значэннем: "дом сваёй сям'і, радні, бацькоўскі": "Чарадзейныя гукі поўнілі атмасферу "шапэнаўскага салона" і імкнулі на вольнае паветра, у сціслы садок: рыхтык падчас знаных імпрэзаў у радзінным доме кампазітара, у Жалязовай Волі!" (ЛіМ. 7.08.1998.С.2).

Тут гэтае слова – ад ***радзіна*** *"сям'я, радня"* (ТСБМ. Т.4.1980. С.555): ***радзін (а) –ны***. Мяркую, што згаданае слова больш дакладна перадае значэнне, якое раней звязвалася з прыметнікам ***бацькоўскі*** (ад бацькі): яно, апроч семантыкі *"дом бацькоў"*, мае адценне, звязанае з радзінамі "нараджэннем", г.зн. "мясціна (дом), дзе чалавек нарадзіўся, дзе жыла яго радзіна (сям'я, радня)".

Дарэчы, слова ***радзіна*** нашыя слоўнікі чамусьці абмяжоўваюць гутарковым стылем, але ж ілюстрацыя выкарыстання не пацвярджае гэтага: "Радзіна, -ы,ж. Разм. Радня, сям'я. Новая лазня з часам стала занадта раскошнай для Кагутовай радзіны. Караткевіч". (ТСБМ.Т.4.С.555).

У жывой народнай мове слова ***радзіна*** ўжываецца і з тым значэннем, што і ***радзіма, бацькаўшчына*** *"месца нараджэння"*. І гэта вытлумачальна: яго словаўтваральная структура – натуральная: ***радз-ін-а***; суфікс ***–ін-а*** тыповы і прадукцыйны ў беларускай мове (чаго не скажаш пра ***-ім-***,які нашай мове неўласцівы).

***Пагулянка, прагулка, прагулянка, праходка, шпацыр***. Рас. ***прогулка*** ў беларускай мове адпавядаюць: ***пагулянка, прагулка, прагулянка, праходка, шпацыр.*** Гэта засведчыў і наш першы аўтарытэтны акадэмічны "Русско-белорусский словарь" над рэдакцыяй Я. Коласа, К.Крапівы, П. Глебкі (М.,1953.С.527): "Прогулка ж. – пагулянка, прагулка, праходка, шпацыр; прогулка пешком - пагулянка (прагулка) пехатой (пяшком); пойти на прогулку - пайсці на праходку (на шпацыр); прогулка верхом - пагулянка (прогулка) верхам; загородная прогулка - загарадная пагулянка (прагулка)".

Як бачым, на першым месцы ў гэтым сінанімічным шэрагу слова ***пагулянка*** – утварэнне ад ***пагуляць*** "гуляць некаторы час" (ТСБМ. Т.3. Мн.,1979.С.500). Яго (***пагулянка***) шырока выкарыстоўвалі класікі беларускай літаратуры. У Якуба Коласа чытаем:"... Лабановіч потым часта хадзіў сюды (на шлюз) на пагулянку". ("На ростанях"). "Варочаючыся з пагулянкі, я ўжо ведаў, што апавяданне будзе жыць". (Янка Скрыган. Ранішнія росы. Мн.,мн..1965.С.185). Ад ***прагульвацца*** (і ***прагуляцца***) ўтварыліся ***прагулка*** і ***прагулянка*** (***прагул-ка***, ***прагулянка*** ці ***прагулян-ка***). Слова ***праходка*** ад ***праходжвацца*** (***прайсціся***) ***праходка***; ***шпацыр*** - ад ***шпацыраваць***.

У савецкі час у перыядычным друку запанавала ***прагулка*** (як супольнае з усесаюзным стандартам). У пазнейшых слоўніках на першым месцы як адэкват рас. ***прогулка*** падаецца ***прагулка***, а сваё, найбольш натуральнае слова ўжо і не згадваецца: няма і слова ***праходка***. Так, у РБС 82 бачым: "Прогулка, ж. Прагулка, разг. Прагулянка; (пешком –ещё) шпацыр (т. 2.С.225). Прадубляваў гэта РБС - 93 (Т.3.С.56) і РБС – 98. "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад аднаасобнай рэдакцыяй К. Крапівы ўжо не падае слова ***праходка*** як сiнонiма да ***прагулка***, няма тут і ***прагулянкі***. У двухтомавым перавыданні яго ***прагулянка*** і ***праходка*** фіксуецца, але толькі як размоўныя словы. І гэта пры тым, што імі актыўна карыстаюцца нашыя славутыя пісьменнікі і навукоўцы (Янка Брыль, Ул.Калеснік. М.Лужанін ды інш.). "Добра-такі па поўдні, вяртаючыся з далёкай праходкі. Руневіч сустрэў на тратуары аднаго з землякоў (Янка Брыль. Птушкі і гнёзды). Мае позіркі ў часе праходак (Ул.Калеснік. Доўг памяці // Полымя. 1997. №10.С.205). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" засведчыў гэтае слова - ***праходка*** - як стылёва нейтральнае, падаўшы прыклад з Брылёвага тэксту (Т.4.Мн.,1980. С.383). Нажаль, новы "Тлумачальны слоўнік" (Мн.,1996) праігнараваў слова ***праходка***, як і ***прагулянка***.

Дык ці трэба збядняць мову, выкарыстоўваючы адно слова ***прагулка*** на месцы пяці, забываючыся на свае адмысловыя ***пагулянка, прагулянка, праходка, шпацыр***?!

*(Працяг у наступным нумары).*



# Пікет 29 чэрвеня

*Як мы ўжо паведамлялі 29 чэрвеня ў Менску прайшоў пікет у абарону беларускай мовы. Рэпартаж з месца падзеі Алеся Гурыновіча.*

Калі ўлічыць у якім становішчы знаходзіцца зараз наша мова, то пікет адбыўшыся 29 чэрвеня ў Менску ў Міхайлаўскім скверы можна лічыць лагічным працягам святкавання 10-х угодкаў ТБМ.

Пікет праходзіў з патрабаваннямі: за захаванне назвы праспекта Скарыны, стварэнне беларускамоўнага універсітэта, супраць візуальнай русіфікацыі Беларусі, а таксама за захаванне беларускіх класаў у СШ № 115 і СШ № 180. Пра становішча якое склалася ў гэтых школах мы пісалі ў мінулых нумарах "НС". У пікеце ўдзельнічала каля 40-ка чалавек, за яго час было сабрана 200 подпісаў за захаванне назвы пр.Скарыны і 300 подпісаў за стварэнне беларускамоўнага ўніверсітэта.

З плакатам "Хочам вучыцца на роднай мове" стаялі і вучні 9 "Д" СШ № 180, разам са сваёй класнай кіраўніцай Дэц Аленай Георгіеўнай.

У размове са мной вучні сказалі, што іх клас хочуць расфармаваць па рускіх класах дзякуючы пазіцыі дырэктара іх школы Мяроўскага В.С. які раней ужо пазбавіўся ад двух беларускіх класаў, а зараз хоча пазбавіцца і ад апошняга.

Вучням 9 "Д" матывуюць знішчэнне іх беларускага класа недахопам настаўнікаў, падручнікаў, нежаданнем часткі настаўнікаў выкладаць на беларускай мове. Вучні расказвалі, што напрыклад настаўніка па хіміі, які ведае беларускую мову адпраўлялі выкладаць у рускія класы, а ў іх паставілі выкладаць хімію настаўніка, які беларускай мовы не ведаў. За год дзеці самі навучылі яго беларускай мове. Выкладаць фізкультуру да іх накіроўвалі студэнтаў, якія казалі, што мову не вывучалі нават у школе.

Як бачна ў СШ № 180 склалася іншая сітуацыя, чым напрыклад у СШ № 191 дзе захаванне беларускага класа падтрымлівалі і дырэктар і настаўнікі і дзе ён урэшце захаваны.

ТБМ будзе трымаць на кантролі пытанне з 9-мі беларускімі класамі ў СШ 115 і СШ 180 і паведамляць чытачам "НС".

Дарэчы наконт пікетавання, нас ТБМаўцаў тысячы, сотні суполак і любая з іх можа правесці пікетаванне для якога дастаткова пяці чалавек, а ў выніку збіраецца адзін, які літаральна ладзіць кіраўніцтва Таварыства. Ці можа адзін пікет быць заўважаным? Каб з гэтага быў нейкі вынік пікетаў адначасова павінна праводзіцца сотні па ўсёй краіне і патэнцыял для гэтага ў нас ёсць. Для гэтага дастаткова каб кіраўніцтва суполак на месцах падало заяўкі, а сябры Таварыства не палічылі вялікім перанапружваннем пастаяць з плакатам зха беларускую мову дзве гадзіны ў месяц.

# У Горадні за беларускую мову маліліся не ўсе

У нядзелю, 27 чэрвеня, Таварыства беларускай мовы святкавала сваё 10-годдзе. З гэтай нагоды ТБМ (рэспубліканскае) дамовілася з прадстаўнікамі кіраўніцтва каталіцкай, праваслаўнай і пратэстанцкай цэркваў аб чытанні малітвы за беларускую мову, якую напісала Марыя Заяц, вучаніца 9 класа СШ № 169 г.Менска. Апроч таго, благаславенне мітрапаліта Філарэта было разаслана па ўсіх епархіях Беларусі.

24 чэрвеня мы звярнуліся ў епархіяльнае ўпраўленне да епіскапа (тэл.72-01-93), таго не было, сакратарка ж паведаміла (тэл. 44-05-75), што пытанне наконт чытання малітвы за беларускую мову можа вырашыць толькі епіскап.

У нядзелю, 27 чэрвеня, мы прыйшлі ў Святапакроўскі сабор, каб пачуць словы святара за беларускую мову, але, нажаль, не пачулі. Сустрэча з уладыкам, прызначаная памочнікам на 12.00, не адбылася. Праўда, памочнік, які не назваў свайго імя, сустрэў нас нявеглівa ды "ахрысціў" ТБМ БНФаўцамі, "которые хотят церковь затянуть в политику". Але газетную выразку з дазволам Філарэта ўзяў і толькі ў 14.00 даў нам адказ, што ўладыка едзе цяпер у Менск да Філарэта, і дазвол даць не можа, маўляў, прыходзьце ў сераду.

Пабывалі мы і ў Фарным касцёле, дзе па нядзелях у 15.00 ідзе імша на беларускай мове. Ксёндз сказаў нам, што не можа прачытаць малітву за беларускую мову – няма дазволу. Параіў звярнуцца да біскупа. Пробашч Фарнага касцёла біскуп Антоні Дзяменка сустрэў нас прыязна, прачытаў газетныя выразкі і малітву за беларускую мову ды сказаў: "Крамолы няма, але ж і вышэйшых касцельных уладаў таксама дазволу няма"...

... Тым не менш, у Горадні малітва за беларускую мову прагучала. Адбылося гэта ў грэка-каталіцкай царкве, за што мы шчыра ўдзячны яе святару Віктару Данілаву.

*Алесь Місцюкевіч, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ.*

# ВІЛЕНСКІ ПЕДАГАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

**па конкурсу атэстатаў набірае студэнтаў на 1 курс факультэта славістыкі па спецыяльнасці беларуская філалогія.**

Акрамя таго, прпапануем дадатковыя спецыяльнасці:
Руская філалогія
Польская філалогія
Методыка пачатковага навучання
Гісторыя культуры
Журналістыка.

Навучанне платнае.
Форма навучання: завочная (5 г.) і дзённая (4 г.).

Прыём дакументаў — да 1.09. 99 г.

1. Атэстат (копія) альбо дыплом вышэйшай школы (выпіска).
2. Медыцынская даведка.
3. 3 фотакарткі (3х4).
4. Выпіска з працоўнай кніжкі (калі ёсць).
5. Заява на імя рэктара

**Дакументы можна высылаць на адрас:**

**Baltarusiu filologijos katedra**
**Vilniaus pedagoginis univesitetas**
**Studentu g. 39-527**
**2034 Vilnius**
**LIETUVA**

Падрабязная інфармацыя:
Тэл.: (8-10-370-2) 72 58 01, 73 18 41, 75 77 41
Тэл. У Баранавічах: (8-01634) 70503, 71378
Fax: (8-10-370-2) 72 81 36
e-mail: slav@vpu.lt

1. На платнае завочнае і дзённае навучанне прымаюцца жыхары Беларусі, Летувы і іншых краін.
2. Дакументы прымаюцца асабіста ці па пошце на адрас універсітэта. Пры перасылцы па пошце далучаецца заява на імя рэктара ў свабоднай форме з указаннем спецыяльнасці, серыі нумару пашпарту, а таксама звестак пра сябе.
3. 10$ за рэгістрацыю дакументаў і афармленне запрашэння для візы ўносяцца асабіста пры падачы дакументаў альбо пасля прыезду на вучобу (калі дакументы перасланы па пошце).
4. Разам з выклікам на вучобу даецца інфармацыя адносна візы, жылля, аплаты і г.д.
5. Універсітэт аказвае дапамогу ў вырашэнні жыллёвага пытання і атрыманні візы для ўезду ў Летуву. Віза пад час вучобы бясплатная.
6. Кошт навучання: завочнае – 330 $, дзённае – 1000 $ у год.
Аплата за вучобу пераводзіцца пасля залічэння праз банк, паштовым пераводам ці асабіста ў касу універсітэта пасля прыезду на сесію. Тады ж падпісваецца дамова паміж студэнтам і ВПУ.
7. Пасля заканчэння студэнт атрымлівае дзяржаўны дыплом бакалаўра беларускай філалогіі, выкладчыка беларускай мовы. Па дадатковай спецыяльнасці выдаецца асобны дыплом.
8. Умовы і аплата за навучанне па дадатковай спецыяльнасці абумоўліваецца асобным кантрактам.
9. Выдадзены ВПУ дакумент аб адукацыі на тэрыторыі Беларусі мае юрыдычную сілу.
10. Выкладанне вядзецца на беларускай і рускай мовах.
11. 1 $ ЗША = 4 літы.

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны глыбока смуткуе з прычыны смерці ў Таронта нашага суайчынніка з Маладзечаншчыны, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў Згуртавання Беларусаў Канады, нястомнага дзеяча беларускай культуры на эміграцыі **Міколы Ганька** і выказвае шчырае спачуванне яго жонцы, спадарыні Марыі Ганько.

## СЫМОН ШАЎЦОЎ

(1911, Беларусь – 1999, Аўстралія)

Пайшоў з жыцця таленавіты журналіст і пісьменнік Сымон Шаўцоў. Ён пражыў вельмі цяжкае жыццё, зведаў зверствы сталінскага і фашысцкага тэрору, але гэта яго не зламала. Усюду, дзе б ён ні жыў, дзе б ні працаваў, заставаўся беларусам высокага гарту, думаў пра Бацькаўшчыну, працаваў на яе карысць і змагаўся за яе незалежнасць. Усюды карыстаўся заслужаным аўтарытэтам і пашанай. Заўсёды быў вялікім аптымістам, верыў у будучыню Беларусі, такім ён і застанецца ў нашых сэрцах. Выказваем шчырае шкадаванне яго родным і блізкім.

*Сябры з Менска.*

P.S. Да ведама:

Сымон Шаўцоў: былы сябра В.Маракова, Ю.Таўбіна, М.Лужаніна.

Вучыўся ў БДУ у акадэміка Нікольскага, прафесара Перцава.

Быў знаёмы з усімі беларускімі пісьменнікамі даваеннага часу.

Друкаваўся ў "ЛіМе", "Полымі", "Беларускай думцы", "Беларусе", "Ніве", "Нашай Ніве" і ў іншых выданнях.

Памёр 8.05.1999. Пахаваны 12.05.1999 на могілках прадмесця Руты Гіл (Rooty Hill) – Сідней , Аўстралія.

Да апошняга часу выпісваў з Беларусі: "Полымя", "Маладосць" "ЛіМ", "Нашу Ніву", "Наша слова", "Навіны".

У траўні 1999 г. ў віленскім выдавецтве "РУНЬ" выйшла яго кніга "Мая адысэя".

## "ЗВІНЯЦЬ ЦЫМБАЛЫ І ГАРМОНІК"

Міжнародны фестываль з такой назвай ужо ў восьмы раз прайшоў у Паставах. Удзел у ім прынялі больш за 500 самадзейных артыстаў з Расеі, Украіны, Летувы, Латвіі і Эстоніі. Многія народныя калектывы прыехалі ў Паставы не ў першы раз. І няхай палітычныя межы падзялілі тэрыторыі былых рэспублік СССР, але сувязь культур, сувязь сэрцаў, глыбокая павага да культур народаў-суседзяў засталіся.

У рамках фестывалю прайшло і свята горада, якое было прысвечана 590-годдзю з дня заснавання Паставаў.

**На здымках:**

1. Касцёл у Паставах – старажытны сведка сувязяў часоў і народаў.

2.На свята горада завітаў і "граф Антоні Тызенгауз", які ў свой час многа зрабіў для развіцця Пастаў.

3. У час тэатралізаванага прадстаўлення, прысвечанага 590-годдзю Пастаў.








Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.

# Святкаванне ўгодкаў БНР у Квебеку

По просьбе беларусаў Квебеку прыводзім праграму святкавання 81-х угодкаў БНР, якое адбылося24 красавіка 1999 года ў Манрэалі ў царкве СВятой Сафіі

- Гімн Беларусі
- Віншавальнае слова (Старшыня ЗБУК Грэгары Хрэноўскі)
- Прывітальнае слова (Кіраўнік Урада Беларусі ў выгнанні, Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла)
- Беларускія вершы (Віта, Раман і Аксана Дачукі, Дзмітры Будовіч, Марыя Парфёнава, Галіна Хрэноўская, Жорж Акула)
- Віншавальнае слова (Намеснік Старшыні ЗБУК Павел Парфёнаў)
- Фальклорныя беларускія музыка, песні, танцы (госціартысты з Беларусі сям'я Казак)
- Адзнякне святкавання і ўдзельнікаў мерапрыемства на відэакамеру і фотакамеру
- Закрыццё вечара (член управы ЗБУК Анатоль Хрэноўскі), гімн Канады

# Змаганне за Беларускі нацыянальны універсітэт працягваецца!

1997 - 1999 гадах сябры ТБМ сабралі каля 10 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі за адкрыццё на Беларусі прэстыжнай навучальнай вышэйшай установы, дзе б усё выкладанне ішло толькі па-беларуску. За гэты час Сакратарыят ТБМ шматкратна праводзіў у Менску на гэтую тэму пікеты і мітынгі. Пікеты і мітынгі ішлі па іншых гарадах Беларусі. Вясной бланкі з подпісамі ўручаны Міністру адукацыі Васілю Стражаву, але рэакцыя пакуль ніякая. Мы прадаўжаем збор подпісаў, каб наступныя 10 тысяч уручыць прэм'ер-міністру. Нашыя дзеці, выпускнікі беларускіх школ і класаў павінны вучыцца ў беларускамоўным універсітэце. Мы не хочам быць у сваёй дзяржаве людзьмі другога гатунку, якім месца толькі на заводзе ці ў калгасе.

У беларускамоўным універсітэце змогуць вучыцца і выпускнікі рускамоўных школаў. Яны, як правіла добра ведаюць беларускую мову, а многія з'яўляюцца яе шчырымі прыхільнікамі, і толькі нашая дзікая рэчаіснасць адарвала іх ад беларускамоўнай адукацыі. Стварэнне нацыянальнага універсітэта дасць ім магчымасць вярнуцца да роднай мовы.

Таму мы друкуем у "Нашым слове" бланк для збору подпісаў за аднаўленне беларускай адукацыі ўсіх узроўняў. Сябры, выражце гэты бланк з газеты, надпішыцеся самі, збярыце подпісы ў сваіх сяброў і знаёмых і дашліце ў рэдакцыю ці непасрэдна ў Сакратарыят ТБМ. Нягледзячы на летнюю задуху, збор подпісаў у розных рэгіёнах краіны працягваецца.

*Алег Трусаў,*
*Старшыня ТБМ.*

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ імя Ф.СКАРЫНЫ**
**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ**

Каб спыніць дыскрымінацыю карэннага этнасу, патрабуем забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску. Дзеля гэтага патрабуем, найперш:

падрыхтаваць і выдаць беларускамоўныя падручнікі па ўсіх дысцыплінах вышэйшай школы;

адкрыць Беларускі нацыянальны універсітэт;

у кожнай ВНУ сфармаваць беларускамоўныя студэнцкія плыні.

| № | Прозвішча, імя | Адрас пражывання | Дата падпісання | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

*Да 40 дзён трагедыі на Нямізе*

# Бумеранг нізкай духоўнасці

Сам не свой у смутку і хваляванні хаджу і думаю аб трагедыі, што адбылася на нашым гістарычным месцы – Нямізе 30 траўня. Калісьці старадаўнія менчукі тут "снапамі лажыліся", бароначы Радзіму. А зараз шмат хто з нас, іх сучасных нашчадкаў, ужо гатовыя яе аддаць. Можа трагедыя гэтая насланая нам, як пакаранне за такое кашчунства?

Таленавіты майстар беларускага слова Ніл Гілевіч у вершы "Смерць на Нямізе" акрэсліў галоўныя акалічнасці трагедыі. Пісалі аб ёй і іншыя, што гэта – не толькі супадзенне выпадковых абставінаў, як нехта хоча прадставіць і схавацца за іх. Але не маглі быць яны выпадковымі, бо з'яўляюцца наступствам таго, што адбываецца зараз на Беларусі.

Баліць душа і плача аб трагічным лёсе Радзімы. Калі спатрэбіцца, не змогуць, напэўна, абараніць яе тыя "рыцары" – забойцы, аб кім з пагардаю ўзгадвае Ніл Гілевіч у сваім вершы. Сапраўдныя рыцары не топчуць жанчын, а абараняюць іх:

"Так ад бомбаў, ад куль і снарадаў
мужчыны не пруць,
Як ад летняга ліўню з градзінкамі
"рыцары" пёрлі –
па касцях, па вачах
і па сэрцы тваім, Беларусь,
і па крыку – жахлівым,
застрэлым у горле".

Як і аб Чарнобылю раней, і зараз імкнуцца замаўчаць абставіны, каб пазбегнуць пачуцця віны і адказнасці. Шмат што па тэлебачанню прэзідэнт сказаў правільна, але ж не ўсё да канца, бо праўда сама б'е па ім і па яго адказных і падначаленых, якія падвялі яго і нас усіх. Дзіўна, што ў якасці прычыны ён угледзеў дэмакратыю; напэўна лічыць, што ў нас яе ўжо занадта, раз ад яе гінуць людзі. Але ці дэмакратыя тое, што ён мае на ўвазе? Гэта не дэмкратыя, а натоўпакратыя, якая ў экстрэмальных умовах можа пераходзіць нават у "гуртаманію", на якую абапіраецца дыктатура. Яна яшчэ больш брыдкая і небяспечная, чым сама дыктатура. Дэмакратыя ні пры чым, калі не так, як трэба, арганізавалі мерапрыемства і не спрацавала міліцыя, якой у нас больш, чым у іншых краінах.

Напрыклад у палякаў адносная да насельніцтва колькасць паліцыі ў шэсць разоў меншая, чым у нас (!). Навошта Беларусі столькі міліцыі? А гэта вялікія грошы, забраныя з кішэняў працоўных і пенсіянераў. Можа міліцыя ў нас ужо ператварылася ў апрыччыну, якая была ў расейскага цара Івана ІУ (Жахлівага), і больш абараняе ўладу, а не народ? Калі трэба было, не прадухіліла трагедыі і не абараніла яго.

Як сведчаць размовы людзей, прыхільнікі прэзідэнта ў большасці згодныя з тым, як ім падказалі, што ніхто не вінаваты, гэта "збег абставінаў" і трагедыя не мае прычынаў. Але як такое можа быць, каб не было прычынаў, калі яны заўсёды ёсць, бо ў прыродзе і грамадстве ўсе падзеі ўзаемазвязаныя і абумоўленыя. Хутчэй у галовах цёмных і малапісьменных людзей адсутнічае паразуменне прычынаў і здольнасць іх самім самастойна вызначыць. А нехта на жаль, гэтым паспяхова карыстаецца, абалваньваючы свой народ і падсоўваючы яму без доказаў свой хлуслівы пункт гледжання з карыснымі для сябе міфамі і фобіямі, у якія сленa вераць людзі.

Прэзідэнт правільна казаў, што сярод затаптаных дзяўчынак п'яных не было, але нічога не сказаў аб тых "малайцах", выпіўшых задарма па 2-3 куфлі піва, а можа дадаткова і гарэлкі, ад чаго яны сталі агрэсіўнымі і нахабнымі. Потым гэтыя малайцы скажуць, што ў нас цудоўны прэзідэнт, які дазваляе такія мерапрыемствы, дзе можна амаль свабодна выпіць і "пабалдзець", гэта значыць – часова зрабіцца дурным. А гарэлка свабодна прадаецца і адносна танная ў выніку палітыкі, праводзімай дзяржавай.

Такім чынам, добра падпітыя хлопцы і задалі тон натоўпу, калі пачаўся лівень, страх перад якім ператварыў натоўп у статак. Штурхаючы пярэдніх у спіну і ні аб чым не думаючы, бо п'яная галава дрэнна думае, яны стварылі сітуацыю, у якой фактычна з'явіліся забойцамі загінуўшых. Такое можа здарыцца толькі з жывёламі, але да жывёльнага стану даводзіць гарэлка і страх. Заахвочванне да п'янства і спойванне – амаральная з'ява і тыя, хто гэта робіць пасля трагедыі становяцца ўскоснымі злачынцамі. Такім чынам, ёсць у трагедыі наўпроставыя (непасрэдныя) і ўскосныя забойцы і тыя, хто па сваіх службовых абавязках павінен быў прадухіліць трагедыю і абараніць народ, але гэтага не зрабіў. Гэта невыкананне сваіх службовых абавязкаў. А гавораць: "Збег выпадковых абставінаў", якія зусім не выпадковыя. У здаровага фізічна, псіхічна і маральна чалавека павінен быць добры настрой і без п'янства і гарэлкі. П'юшчага лягчэй падмануць і абалваніць. На жаль, ніхто з забойцаў не быў затрыманы і пакараны за хуліганскія дзеянні, якія прывялі да трагедыі. Хай бог іх пакарае, калі гэтага зрабіць не змагла дзяржава. Дараваць смерці невінаватых нельга і хай сумленне злачынцаў пакутуе.

Але збег выпадковых абставінаў, таксама быў. Гэтую хмару можа сам Бог, д'ябал або прырода наслала, каб даць зразумець нам сваё духоўнае калецтва. Мабыць, гэта быў экзамен, які не вытрымаў беларускі народ. Падзея выканала ролю нейкага люстэрка, у якім беларускі народ паглядзеў сам на сябе. А ці зразумеюць людзі тое, што яны ў люстэрку ўбачылі, бо ім вельмі старанна засцяць вочы і прытупляюць розум. Лукашэнкаўскі электарат тых, хто гаворыць праўду, ужо называе "правакатарамі", памыляючыся ў тым, што праўда не можа быць правакацыяй. Ёй з'ўляецца толькі хлусня, мэтанакіраваная камусьці на карысць. Праўду гаварыць —святы абавязак кожнага сумленнага чалавека, а хлусіць і ўтойваць яе – вялікі грэх па боскаму запавету. Маўчаць нельга, каб канчаткова не дэградаваць нам усім разам.

У "збегу абставінаў", за выключэннем хмары, непасрэдна і ўскосна вінаватыя ўладныя структуры. Наш прэзідэнт мае неабмежаваную ўладу і калі яе дамогся, спакусіўшы і згвалціўшы Беларусь, то за ўсё трэба адказваць. Улады, не зрабілі і не прадбачылі, што трэба было і, наадварот, рабілі тое, што не трэба. Разумным і справядлівым крокам было б, каб яны зараз сышлі ў адстаўку, бо заслугоўваюць яе.

Моладзь трэба не разбэшчваць, заваёўваючы у яе танны аўтарытэт, каб спадабацца ёй. Яе трэба выхоўваць на добрых прыкладах і прагрэсіўных ідэях, галоўнай з іх у іншых народаў, напрыклад, у расейскага, з'яўляецца самая высакародная – нацыянальная ідэя: захаванне і абарона незалежнасці краіны замест адмовы ад яе, бо такое антыпатрыятычна і амаральна. Але амаральна таксама адымаць незалежнасць у іншага, суседняга народа – беларускага.

Праяўленне антыпатрыятызму і амаральнасці не змогуць выхаваць высокай духоўнасці ў моладзі. Не можа выхаваць і аб'яднаць народ адмова ад роднае мовы, гістарычнай сімволікі продкаў, сапраўднай гісторыі і замест яе навядзення нам падманнай, створанай шавіністамі і калабарантамі. Не выхавае ў народа патрыятычнасці адмова і няздольнасць уладаў пісьменна і самастойна кіраваць сваім народам і краінай насуперак прыкладу іншых краін. Наадварот, дапаможа выхаваць здольнасць да лёкайства і прыстасавання, схільнасці здрадзіць самім сабе, сваёй Радзіме і інтарэсам сваіх нашчадкаў. Усё ў грамадстве ўзаемазвязанае і абумоўленае. Нізкая духоўнасць, недахопы ў кіраванні краінай, і тое, што непісьменную і непрафісійную ўладу шмат хто з народа адабрае і галасуе за яе, бо такія людзі, як ужо гаварылася, няздольныя самастойна ўразумець і вызначыць прычыны, напрыклад таго, чаму так дрэнна жывуць, — усё гэта потым бумерангам б'е па самому народу, як і здарылася на Нямізе. Як і здарылася тое, што зараз мы так дрэнна жывём і перспектываў паляпшэння ў бліжэйшы час не бачна. Перапляталіся разам матэрыяльная і духоўная дэградацыя грамадства. Вінаватыя не толькі ўлады, але і простыя людзі, якія вераць дрэннай уладзе. Настаў ужо час усім нам разам пакаяцца перад сваім сумленнем і богам. Гэта павінна адбыцца са слязамі, як азарэнне... І тады зноў укрэсна і аднавіцца нашая светлая Радзіма Літва – Беларусь і абудзецца яе сапраўднае Адраджэнне як чыстае крыніцы, якая была закіданая брудам.

Жыве Беларусь!

*Марат Гірко, Менск.*

№ 27(412) 7 ЛІПЕНЯ 1999 г. наша СЛОВА

Леў Мірачыцкі

# Беларускае слова ў Латгаліі, альбо люцынская "Ластаўка"

***Бярэш вялікі грэх на душу,***
***Калі згубіш мову беларуса.***
***(З латгальскіх дайнаў)***

У пачатку 20-х гадоў у сценах люцынскай беларускай гімназіі з дазволу Міністэрства асветы Латвійскай Рэспублікі пачала выходзіць вучнёўская часопісь. Назва яе была сімвалічная. У звароце да моладзі Латвіі быў змешчаны заклік. У ім гаварылася: ***"Мы павінны скарыстаць прыхільнасць ураду Латвіі і латышскага народа да культурнага адраджэння беларусаў, паказаць, што беларусы – не выдумка, як гэта кажуць нашы ворагі, а жывы народ, які, як і кожны народ, хоча зберагчы сваё аблічча, сваю мову, і сваю думку, які за часы з X па XУI сталецці дасягнуў высокай культуры і адукаванасці і канкураваў у гэтым з Польшчай, не кажучы аб тагачаснай Маскоўшчыне!***

***Толькі гістарычныя варункі змусілі магнацтва і шляхту беларускую або апалячыцца, або абмаскаліцца, селянін жа застаўся беларусам, збярог свае звычаі, сваю мову і сваю душу. Выявіць гэтую душу, паказаць хараство яе ўсяму свету – вось нашае гледжанне.***

***Да гэтай працы мы і заклікаемо цябе, Беларуская Моладзь! Усведамляйся сама нацыянальна і пашырай гэтую свядомасць сярод Беларускага Народа! Прасякайся павагаю да роднае мовы, шануй яе, бо "мова ёсць вопратка душы народа".***

***Хай жа наша "Ластаўка" будзе прадвеснікам вясны Беларускага Народа.***

***Жыве мова – жыве народ!***

***На вясне нашага адраджэнцкага руху ў вольнай Латвіі выпускаема мы нашу першую "Ластаўку". Моцна верым у яе шчаслівую будучыню і шчыра заклікаемо ўсіх Вас спаткаць яе з брацкаю прыхільнасцю, не крытыкаваць дужа строга, згуртавацца каля яе і падтрымаць хто, чым і як можа.***

***Рэдакцыя.***

***1 траўня 1923 года."***

У першым нумары "Ластаўкі" дэбютаваў малады паэт Пётр Масальскі (1905-1985), які тады выступаў пад псеўданімам Пятро Сокал. У вучнёўскім вершаваным творы "Я вольны сын неба" з юнацкім запалам услаўляе вольнасць краіны, без якой не мысліць прагрэсу.

***"Хоць я і радзіўся з нядолі народнай, —***
***Сакол я свабодны!***
***Я веру ў Свабоду! Я веру ў шчасце!***
***Жадаю яго свайму народу...***
***Дарогу мне к сонцу! Дарогу к свабодзе!***
***Стучыцца ўжо шчасце к майму ваконцу***
***Лячу абуджаць я надзею ў народзе..."***

Так горда ўсведамляе і выказвае думкі гімназіст.

У другім сваім творы "Хай гром грыміць" натхнёны суседствам з Балтыйскім морам і вялікай ракой Дзвіной – Даўгаваі не ўстрымаўся, каб не выкарыстаць алегарычнасць краю:

"***Хай гром грыміць, хай стогне бура,***
***Хай крышыць горы малання,***
***Хай забушуе грозна мора***
***І затрасецца ўся зямля."***

Цяпер, калі адкрыты доступ да атрымання ведаў, паэт верыць, што беларус не загіне. Ён будзе жыць, будаваць сваю будучыню на карысць роднай старонкі, дзе разсяліліся "балтакрэвы" – балтыйскія крывічы.

Паэт шчыра верыць, што іх гісторыя вельмі багатая, а гэта знак бытавання продкаў над вялікай ракою даўні, і на гэтым шляху рознае бывала, пра што і сведчыць:

***"Узвіўся горда, вольна ў неба***
***Бела-крывава-белы сцяг.***
***Ён чыстаты народнай сведка***
***І яго цяжкай долі знак."***

Для паэта – творцы ён бачыцца самы прыгожы і праўдзівы, таму заклікае сваіх суродзічаў ісці пад гэтым векавым штандарам, пад якім ішлі дзяды і прадзеды.

***"Ідзі пад гэты сцяг прыгожы,***
***Каму свет родны, дораг кут!..***
***Пад сцягам гэтым мы ўсё зможам.***
***Прайдуць вякі, і нас адважна***
***Ўспомніць грамада братоў."***

Такія паэтычныя думкі гімназіст занатаваў 20 ліпеня 1923 года ў Люцыне.

У вершаванай форме выказвае пачуцці да роднай вёскі, якая яго ўзгадавала, паэт-пачатковец Якуб Завея:

***"Мне мілы бярозы вясною ў гаю,***
***Дзе жыў я шчасліва, як у светлым раю."***

Родныя мясціны з прыгожымі краявідамі натхнілі яго зрабіць запіс вясковай легенды пра літоўскую гару, што мяжуе з вёскай і бачыцца здалёк.

Аўтар арпавядае, што праз яе людзі часта згадваюць:

***"Даўным-даўно на гэтай гары стаяла прыгожая старэнькая бажніца. Аднойчы ў нядзелю ішла на набажэнства маладая дзяўчына. Спатыкнуўшыся, яна незнарок сказала: "А каб ты праваліліся". Ледзь успела гэтыя словы сказаць, як бажніца з шумам пачала апускацца пад зямлю. А неўзабаве і зусім праваліўся.***

***Прайшло шмат часу. Людзі забыліся аб былой падзеі, што тут была калісь бажніца. І вось аднойчы нейкая старэнькая бабка збірала на гэтай гары ягады, раптам яна ўбачыла ў траве пацеркі. Захацелася іх падняць. Пацягнула і тут убачыла, што канец ружанца знаходзіцца ў зямлі. Калі пачала цягнуць, здзівілася, што нехта не выпускае з рук. Раптам убачыла пад нагамі крыж і чуюцца словы: "Цягні хутчэй. Ратуй нас!" Кабета, спалохаўшыся, выпусціла пацеркі , якія цягнула, з рук. Бажніца ізноў апусцілася ў гару".***

Сярод ваколічных сялян яшчэ можна пачуць і іншыя легенды, паданні. Абавязкова трэба прыйсці на гэта месца ў святочны дзень у часе касцельнай службы і прыкласці вуха да зямлі, тады і пачуеш арганныя гукі і спевы хору. Гэта моляцца людзі ў літоўскай святыні, каб усемагутны ўладар зліатаваўся над імі і выпусціў на свет Божы...

У другой легендзе пра другі замак, які запісала гімназістка Валянціна Казлоўская, апавядаецца , што на высокай тагачаснай гары, дзе высяцца руіны старога замку, калісці адбываліся неверагодныя дзеі. Сёння яны, здаецца, упіраюцца ў самае неба і з'яўляюцца нямымі сведкамі прошласці. Возера, ласкаючыся, б'ецца каля самога берага, нібы кажучы: "Таямніц я ведаю шмат, але маўчу, маўчу. Больш ніхто і ніколі не даведаецца..."

*"Даўно калі яшчэ нашы дзяды жылі па лясах, ды маліліся драўляным багам, з далёкай Нямеччыны прышло ў наш край войска крыжакоў, так званы "Лівонскі Ордэн". Магістр гэтага Ордэну і пабудаваў сабе люцынскі замак.*

*Было ў яго тры дачкі. Старшая Люцыя была сіратою, бо першая жонка магістра памерла. Дзве малодшыя – Марыя і Разалія былі ад другой жонкі. Што і казаць, колькі вытрывала бедная Люцыя ад сваёй мачахі? Ёй, нават, і пажаліцца не было каму. Бацька, суровы германец, увесь аддаўшыся сваёй мэце "пашырэння рымскае царквы", на дачок не звяртаў ніякай увагі, вядучы увесь час войны проці насельнікаў гэтага краю, ён зусім мала калі бываў у замку. А Люцыя, як кветка расла і цвіла сярод тоўстых сцен.*

*Многа ўжо рыцараў углядаліся на яе. І вось толькі адзін юнак Альберт з дружыны бацькі прыветна пазіраў на яе сумныя блакітныя вочы.*

*Бывала ціхком сыдуцца дзе небудзь, колькі радасці было ў жыцці Люцыі!*

*Даўно ўжо пакляўся Альберт, што лепш складзе сваю галаву ў цяжкай барацьбе з няверным, чымся зменіць ёй, сваёй прыгожай Люцыі. Яна ж адказвала ўзаемнасцю, што лепш пойдзе ў кляштар, чым пакахае каго іншага.*

*Неўзабаве прыязджае ў люцынскі замак сватацца сам маскоўскі цар Іван Грозны, якога ў народзе празвалі Жахлівым. Магістр з жонкай адразу згадзіліся. Аднак Люцыя адмовіла яму. Засталася вернай свайму слову, якое дала каханаму. Гэтае непаслухмянства дачкі, чаго даўней не сустракалася, угнявіла бацьку з жонкай. Іван Грозны, таксама дужа незадаволены быў адказам, бо на другі дзень, ледзь сонца ўзышло, пакінуў замак.*

*—Я думаў вы не асмеліцеся зняважыць мяне?!, мяне вялікага маскоўскага цара?!, не хоча дабром - сілай вазьму!, а за знявагу забяру ўвесь гэты край аж да самага Балтыйскага мора.*

*Беднай Люцыі пачалося жыццё яшчэ горшае. Ёй цяпер нельга было бачыцца з Альбэртам, бо мачаха не выпускала яе з вежы. Знікла ўсё, што рабіла жыццё цікавым, прыгожым і светлым.*

*У хуткім часе ўспыхнула Вялікая лівонская вайна. Сам Іван Грозны са сваёй вялізарнай дружынай пачаў аблажэнне люцынскага замка.*

*Доўга цягнулася аблога, бо надта добра быў умацаваны замак старога магістра. Аднак перад узыходам сонца, на Вялікдзень уварвалася маскоўскае войска праз тоўстую браму замка. Мачыха, убачыўшы, як хутка гіне дружына магістра, страшным голасам крычала на Люцыю:*

*--Згінь вось на гэтым мейсцы! З-за яе трэба ўсім гінуць, а яна будзе красавацца ў харомах маскоўскага цара!.. Не! Дарма! Не будзе гэтага!*

*Ледзь паспела яна прагукаць гэтыя словы, як шуганула з пад зямлі сіняе полымя і разам з ім знікла бедная Люцыя.*

*А маскоўцы ўжо ламаліся ў дзвярах.*

*Спусцілася грэшніца – мачыха ў падземны ход, а за ёю слугі панеслі самлеўшых дачок.*

*Над люцынскім замкам вісела хмара дыму ад запаленых амбараў, ды клубіўся шэра-жоўты пыл...*

*Ад чорнага зладзейскага праклёнцтва пацямнела абуранае неба. Схавалася яно за хмары, адкуль хутка заплакала буйнымі кроплямі дажджу. Расхваляваліся азёры, яны, здавалася, бясконца пеніліся. Утвараліся фантаны пырскаў. Паспалітны люд шукаў прыгожую Люцыю. Не знайшлі яе. А памяць народная сцвярджае, што яна жыве. Ніхто не хоча мірыцца, што загінула прыгожая паненка, якая ўвасабляла само хараство Наддзвінскага краю."*

*"Змалку, наслухаўшыся бытаў, магчыма, перабольшаных, але аднойчы хвацкі юнак, якога звалі Антонам, задаўся мэтаю вызваліць некую паненку Люцыю ад заклёнцтва. Выбраўшы надыходзячую часіну пайшоў на люцынскі замак. Сцюдзёны паўночны вецер гнаў па небе невялікія хмаркі, з за якіх сяды-тады выглядаў кволы месячык.*

*—Толькі цяпер не спалохацца, як раптам перад ім быццам з таго свету пачуў воклік: "Не бойся!, гэта я Люцыя, гаспадыня гэтага замка! Што ж было далей". Цікаўнаму юнаку падалося, што Люцыя сапраўды вельмі прыгожая паненка, прыбраная, як да шлюбу ва ўсё белае, падвянечнае, але яна чамусьці плакала. Шкада было яе, разпораз чуліся словы: " Не пакідайце тое, што вам роднае, блізкае, сваё. Яно будзе саграваць, абнадзейваць, стала ўзбагачаць на вашым жыццёвым шляху".*

Аўтарка гэтых запісаў была гімназістка Валянціна Казлоўская, якая заўжды цікавілася гісторыяй сваіх родных мясцін і такім чынам захавала для нашчадкаў тагачаснае ўяўленне аб старадаўнім люцынскім замку. Яе калежанкі і здольныя калегі-мастакі накінулі для нас малюнкі гэтага грознага сярэднявяковага збудавання, з якім звязана шмат легендаў і паданняў.

Дарэчы варта адзначыць, што здольная вучаніца Валянціна Казлоўская была аўтарам невялікіх аднаактных п'есаў і лірычных вершаў, а таксама збіральніцаў народнай творчасці. Магчыма яна сяды-тады і падпісвалася псеўданімам "Лясная Кветка".

Выпуск часопіса "Ластаўка" даваў мажлівасць гімназіі ладзіць амаль рэгулярную хроніку культурна-асветнага жыцця сярэдняй навучальнай установы на Дзвіншчыне, выпрацоўваць свой мастацкі густ з пераймannем лепшых моўных традыцыяў і звычаяў латгальскага краю. Тут рэгулярна змяшчаліся этнаграфічныя замалёўкі, як нарыклад "У калядны вечар", "Родная вёска", "Аб песнях беларускага народа", "Што пішуць аб нас суседзі".

Вольналюбівыя балтыйскія крывічы, сучасныя беларусы, пакінулі глыбокі след у гістарычнай свядомасці латгальскага краю:

***"Песні аб горы старыя дзяды нам спявалі,***
***Слухалі мы іх – і сэрца балела ў грудзях...***
***Час той мінуўся, мы новыя песні пачалі,***
***Песні аб волі – грымочуць цяпер на палях!***
***Смела глядзім мя нязгаснаму сонцу ў вочы***
***І усміхаемся дзёрзка, убачыўшы ў ніве залом.***
***—Досыць, пяём мы, блудзіць на задворках у ночы,***
***Праўды святло ў каганцох мы народу нясём!"***

З глыбокім пачуццём удзячнасці пісаў былы вучань люцынскай і дзвінскай гімназій Пятро Масальскі з вёскі Пасіене Лудзенскага раёна, а гэта было 1-га траўня 1927 года. І хаця яго творчая спадчына не дужа вялікая, але на яго рахунку былі першыя пераклады паэзіі Яніса Райніса.

Першы крок.

Са шчырым бласлаўленнем педагогаў і асабліва Кастуся Езавітава, а таксама Таварыства беларусаў – выбаршчыкаў у Дзяржаўны Соім, які паспрыяў выхаду у свет гэтага зборніка вершаў у 1926 годзе. "Першы крок" стаўся радаснай падзеяй у культурным жыцці маладой латвійскай рэспублікі. У зборніку змешчаны вершы лірыка-філасофскія, напоўненыя глыбокім патрыятычным пачуццём замілаванасці да роднай мовы і клічуць ісці наперад, перамагаць жыццёвыя складанасці. Гэтая невялікая анталогія беларусаў Латгаліі натхняла ўсіх прыхільнікаў беларускага слова ў краіне, але і далёка за яе межамі.

***"Што ў сэрцы гарыць,***
***Што ў думках крычыць,***
***Што шчасліва, ці цяжка хвалюе –***
***Дамагаліcь злавіць,***
***Дамагаліcь адбіць***
***І злажыць у радкі,***
***Як маляр на халсціну малюе.***
***Ці ўдалось гэта нам,***
***Ці мы варты чаго –***
***Мы на суд пасылаем старэйшым."***

Так гаварылася ў прадмове, надрыхтаванай добрым і чулым педагогам, якім быў дырэктар Люцынскай гімназіі. Тут думкі пачаткоўцаў – гімназістаў, выкладчыкаў, учарашніх вайскоўцаў, усіх замілавальнікаў роднага слова, патрыётаў, чый куточак прытуліўся паблізу Падзвіння і Балтыйскага мора.

***19 траўня 1999г.***
***г. Менск***





# Як бальшавікі давялі да самагубства Усевалада Ігнатоўскага

Дзесяткі гадоў яго імя было ў забыцці. Апошні раз беларускія газеты пісалі пра Ігнатоўскага 16 студзеня 1931 г. – у пастанове Прэзідыума і Парткалегіі ЦКК КП(б)Б, дзе гаварылася: "В.М. Игнотовского, как не изжившего антипролетарского мировоззрения, проводившего на протяжении всего периода пребывания в партии национал-демократическую установку в своей работе, являющегося фактически кулацким агентом в партии, как обманывающего партию покаянными заявлениями, прикрывая ими продолжение своей антикоммунистической деятельности в рядах КП(б)Б и как чуждого элемента, игравшего на руку национал-демократической контрреволюции – из рядов КП(б)Б исключить".

Такая вестка прагучала тады зусім нечакана. Імя Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага ў той час было шырока вядома ў Беларусі і далёка за яе межамі: член Бюро ЦК КП(б)Б, член ЦВК БССР і СССР, дэлегат XIII з'езда РКП(б) і многіх з'ездаў КП(б)Б, V кангрэсу Камінтэрна, старшыня Інбелкульта, першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі Навук.

Амаль праз 60 гадоў, зноў нечакана, газеты надрукавалі пастанову Бюро ЦК КПБ ад 31 кастрычніка 1990 г. "О реабилитации в партийном отношении Игнатовского В.М. (посмертно)", у якой усе абвінавачванні супраць яго былі адхілены.

Дык чаму ж такі доўгі час прозвішча Ігнатоўскага было пад забаронай, калі, напрыклад, прозвішчы "врагов народа" Троцкого, Бухарына і іншых бальшавіцкіх раскольнікаў ніколі не сыходзіла са старонак падручнікаў і грамадска-палітычнай літаратуры? Адказ на гэтае пытанне лёгка адшукаць у творах нашага знакамітага вучонага і ў яго дзяржаўных справах.

Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі стаяў ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці, быў адным з тых, хто ўзначальваў працэс адраджэння на Беларусі, які пачаўся пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Безумоўна, гэты працэс праходзіў у складаных, унікальных умовах, звязаных са здрадніцкім Брэсцкім "мірным" дагаворам і такім жа Рыжскім "мірам". Яны яскрава дэманстравалі прадажніцкую дзейнасць партыі бальшавікоў у адносінах да меншых народаў, калі справа закранала яе асабістае існаванне.

На пачатку 20-х гадоў на чале БССР сталі маладыя кіраўнікі А.Чарвякоў, З. Жылуновіч (Ц.Гартны), У. Ігнатоўскі, Я.Дыла, якія не былі ўбаку ад рэвалюцыйных падзей 1917 г., хоць па рознаму ўдзельнічалі ў іх. Яны добра ўяўлялі становішча Беларусі, якая не па сваёй волі згубіла большасць тэрыторыі, памяталі падзеі сакавіка 1918 г., калі была абвешчана БНР. Але ім падалося, што якраз наступіў той момант, калі беларускі народ можа зажыць сапраўды свабодна, без імперскага і нацыянальнага прыгнёту. Менавіта таму яны сталі пачынальнікамі і актыўнымі праваднікамі адраджэнцкага руху 20-х гадоў, які атрымаў назву "беларусізацыя". Гэта была вельмі цікавая старонка ў гісторыі Беларусі. У складаных умовах, выкліканых працяглай шматвяковай каланізацыяй і русіфікацыяй была паспяхова пачата сапраўдная культурная рэвалюцыя. Як беларусы, так і палякі, яўрэі, рускія, літоўцы, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, што жылі на тэрыторыі Беларусі, пачалі адчуваць сябе грамадзянамі Беларусі, адказнымі за яе будучы лёс. Аднак у канцы 20-х гадоў кіраўніцтва СССР і ВКП(б), якая ўзяла на сябе ролю "правадыра" адыйшло ад новай эканамічнай палітыкі да каманднa-адміністратыўных метадаў кіравання. Новы пераход суправаджаўся жорсткай і бязлітаснай барацьбой некалькі груповак бальшавікоў за ўладу ў партыі і дзяржаве. Усё гэта не магло адбіцца і на становішчы у рэспубліках СССР і ВКП(б). Шлях беларусізацыі быў перакрыты, а тых, хто яе ўзначальваў, пачалі знішчаць.

Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі стаў у Беларусі адной з першых ахвяр тэрору, развязанага ВКП(б) у час "великого перелома". Трэба было скампраметаваць яго, як вучонага, дыскрыдатаваць, як палітычнага дзеяча – адным словам зрабіць з яго "жывога нябожчыка". Цкаванне У. Ігнатоўскага на XII з'ездзе КП(б)Б, які адбыўся ў 1929 г. мела вельмі дзіўны характар. Сакратар ЦК КП(б)Б, член-карэспандэнт АН БССР С.Агурскі з так званых "классовых" пазіцый раскрытыкаваў на з'ездзе працу Усевалада Ігнатоўскага "Да пастаноўкі пытання аб паўстанні 1863г." Падставай для сур'ёзных палітычных абвінавачванняў стала вызначэнне рухальных сіл паўстання на чале з К. Каліноўскім. Па словах С. Агурскага, У. Ленін ахарактарызаваў паўстанне 1863 г. як "шляхецкі вызвольны рух", а У.Ігнатоўскі – як "буржуазна-дэмакратычны рух". Вось такім чынам да Ігнатоўскага імкнуліся прычапіць шыльду "антиленинца". Тут варта прыгадаць, што адным з такіх "антиленинцев" тады быў Троцкі.

На першы погляд, здавалася б, С.Агурскі мог як вучоны выказацца наконт паўстання на старонках таго ж часопіса (Бальшавік Беларусі, 1928 № 6-7), выступіць на нейкай нарадзе ў Інбелкульце ці Белдзяржуніверсітэце. Але быў выбраны менавіта такі варыянт у сувязі з тым, што Масква тады пільна сачыла за падзеямі ў Беларусі. У маі 1929 г. у Менск прыбыла камісія ЦК ВКП(б) начале з сакратаром ЦК КП(б) У. У. Затонскім, якая, пазнаёміўшыся тут з ходам падзей, потым, вярнуўшыся ў Маскву, яшчэ "узмацніла" крытычныя заўвагі да артыкула У.Ігнатоўскага ў партыйным часопісе.

У чым жа справа? Чаму было праяўлена столькі ўвагі да працы навукоўца? Каб зразумець усю складанасць сітуацыі, у якой апынуўся Ігнатоўскі і яго аднадумцы па адраджэнню, трэба ўявіць тагачасны гістарычны момант. З кожным годам "успешного строительства социализма" тады ўзмацнялася не барацьба з класавым ворагам, а барацьба сярод кіраўнікоў адзінай у краіне партыі ВКП(б) і ўрада СССР. Адны з іх сапраўды змагаліся за крэслы, другія ж не пагаджаліся з унутранай і знешняй палітыкай галоўных асоб Крамля.

Акадэмік І.Ігнаценка і кандыдат гістарычных навук А.Кароль у сваіх працах перакананы, што падстаў для крытыкі Ігнатоўскага не было. Можа Агурскі выконваў нечы сацыяльны заказ? – паставілі пытанне аўтары і, на жаль, на яго не адказалі. Яны разглядаюць працу У. Ігнатоўскага "1863 год на Беларусі" і таксама закранаюць прычыны, характар, ход паўстання, яго рухальныя сілы, адзначаюць, што К. Каліноўскі сапраўды быў сапраўдным правадыром народнага руху. Аўтары лічаць, што крытыка працы Ігнатоўскага і абвінавачванне яго ў правым ухіле і нацдэмаўшчыне звязана са сталінскай палітыкай знішчэння палітычных супраціўнікаў, а здаровае кіраўніцтва рэспублікі перашкаджала гэтым намаганням.

Урэшце, член-карэспандэнт АНБ П.Петрыкаў у сваёй працы піша, што ў КП(б)Б у 20-я гады ішла барацьба польскай, яўрэйскай і беларускай груповак за ўладу ў партыі і дзяржаве. А паколькі У. Ігнатоўскі быў найбольш каларытнай фігурай, асноўны удар быў скіраваны супраць яго. Галоўным абвінаваўцам на XII з'ездзе КП(б)Б, як падкрэслівае П.Петрыкаў, стаў Самуіл Хаймавіч Агурскі. Між радкоў можна здагадацца, што гаворка ідзе аб прадстаўніку троцкісцка-сіяніcцкіх колаў.

Дык чый жа сацыяльны і палітычны загад выконваў С.Агурскі? Сіяністаў, трацкістаў, нацыяналухілістаў і ім падобных? Вельмі дзіўна гэта выглядала б, асабліва, калі ўлічыць, што тады па ўсёй краіне Саветаў ішла барацьба з трацкізмам. Ці магчыма было такое ў той сітуацыі? Зразумела, што не.

Сёння нам ужо добра вядома, што І.Сталін не толькі ведаў, як ішло знішчэнне яго палітычных супраціўнікаў, але і сам распрацаваў сцэнарыі крывавых спраў.

Сталін, які ўзначальваў Наркамат па справах нацыянальнасцяў у час стварэння БССР і ЛітБела прыязджаў у Беларусь і добра ведаў пазіцыі А.Чарвякова. З.Жымуновіча, Я.Дылы па пытаннях беларускай дзяржаўнасці. Ён памятаў і пра тое, што, дзякуючы ім, бясслаўна з'ехаў з Беларусі стаўленння петраградскіх бальшавікоў А.Мяснікоў. Беларусізацыя безумоўна, не падабалася Сталіну. І ў працы "1863 год на Беларусі" У.Ігнатоўскага, пра якую яму маглі паведаміць звышпільныя памочнікі, Сталін, відаць, убачыў небяспеку для створанага яго вялікімі намаганнямі СССР.

Кніга "1863 год на Беларусі", пазіцыя яго аўтара выклікала спалох у кіраўнікоў Крамля. Афіцыйная ідэалагічная прапаганда зрабіла тады ўсё, каб нацыянальны герой беларускага народа Кастусь Каліноўскі ўспрымаўся не інакш, як бунтар-адзіночка.

"Навуковая" палітыка аб рухальных сілах падзей 1863 года ў Беларусі і Летуве адводзіла думку чытача ад галоўнай мэты паўстання, якім кіраваў Каліноўскі: дэмакратычная,сапраўды народная дзяржава. Пасля далучэння Беларусі да Расеі ў канцы XVIII ст. К. Каліноўскі першым тут узняў пытанне аб праве нацый на самавызначэнне. А ўсе гады існавання СССР кіраўнікоў КПСС палохаў развал імперыі. Кніга ж "1863 год на Беларусі" клікала народ змагацца за незалежную дзяржаву. Вось па гэтай прычыне, на мой погляд, і была арганізавана палеміка на XII з'ездзе КП(б)Б. І Усевалад Ігнатоўскі быў даведзены да самагубства, яго імя выкрэслена з памяці, а кніга аказалася пад забаронай.

Усевалад Макаравіч атрымаў палітычную рэабілітацыю апошнім з палітычных дзеячоў Беларусі – калі да распаду Савецкага Саюза засталося ўсяго каля года.

***Мікола Капыловіч***
***г. Маладзечна.***

# "Перш думай пра Радзіму, а пасля пра сябе"

***"Нет, и не под чуждым небосводом,***
***и не под защитой чуждых крыл,***
***Я была тогда с моим народом,***
***Там, где мой народ, к несчастью, был..."***
***(Анна Ахматова "Реквием").***

"Я счастлива, что жила в эти годы и видела события, которым не было равных", — пісала А.Ахматава. Яна пісала вершы, у якіх – сувязь з часам, з новым жыццём народа. "Когда я писала их, я жила теми ритмами, которые звучали в героичной истории моей страны".

Чытаю беларускую прэсу, уважліва сачу за падзеямі ў Беларусі. Чым далей, тым больш пустэча і расчараванне. Што ж такое інтэлігенцыя? "Работнікі разумовай працы, якія маюць адукацыю, спецыяльныя веды ў розных галінах навукі, тэхнікі і культуры" слоўнік С.Ажэгава.

Выхаваная на класіцы, для мяне інтэлігенцыя, яе ідэалы ў Тургенева, Чарнышэўскага, Дастаеўскага. Але гэта быў другі час, будавалі іншае жыццё. У пачатку 90-х гадоў я сама была сведкам і прымала актыўны ўдзень – у адраджэнні Летувы. Пачалося адраджэнне з "Саюдзіса", які стварылі невялікая група інтэлігенцыі, потым ён пераўтварыўся ў народны, арганізоўваў шэсці, шматтысячныя мітынгі. Ён быў лідарам і вёў народ. Тады летувісы не разрознівалі, хто якіх поглядаў, хто кім працуе, тым больш, хто ў якой партыі. Для летувісаў галоўнае – вольная незалежная Летува. Яны аб'ядналіся і перамаглі.

Адначасова з "Саюдзісамі" у Летуве, у Беларусі стварыўся "Беларускі Народны Фронт" (БНФ).

У 1989 годзе ў Вільні прайшоў першы з'езд. У пачатку 90-х гадоў і ў Беларусі пачалося нацыянальнае адраджэнне. І тады ж "пасыпалася" інтэлігенцыя з Беларусі ў другія краіны, тады, дзе лепш. Хто ажаніўся, хто зрабіў у час кватэрны абмен, тады з Летувы, як і з другіх краін Балтыі "уцякалі" вайскоўцы савецкія, ведаючы, што іх чакае ў Балтыйскіх краінах у будучыні. На Вільню можна было абмяняць любую кватэру, нават з правінцыі. Што і зрабілі практычныя беларускія інтэлігенты. І цяпер з другіх краін (можа вялікае бачыцца на адлегласці, як сказаў паэт) удалечыні ад Беларусі, ад народа, вучаць, як жыць. Радасна, што з'явіліся маладыя палітыкі, вырасла новая генерацыя, менш сталі баяцца, горш ужо не будзе. Столькі розных партый, згуртаванняў дзяржаўных і недзяржаўных і ўсе разрозненыя, мала супольнага. Пад час развалу Савецкага Саюза ў Беларусь, хлынула хваля вайскоўцаў з краін Балтыі, з Заходняй Еўропы, якія займаюць кіраўнічыя пасады, праводзяць рэферэндумы – патрэбна ці не беларуская мова беларусам. Таму і маем такія вынікі. Прыехала з Бярозаўкі дачка маіх знаёмых з сям'ёй. Распавядала пра цяжкае жыццё ў Беларусі, мізэрныя заробкі (цяжкое яно ўсюды) і дадала, што палітыкай не займаецца і не цікавіцца. І так разважаюць медыкі з вышэйшай адукацыяй. Разумеючы, што крах эканомікі – вынік збяднення народа. Пасіўныя адносіны, маўчанне, цярпенне – гэта таксама палітыка.

Неяк у Менску патэлефанавала пісьменіцы, падняла трубку дачка і ні слова па-беларуску. Такое расчараванне, лепш не тэлефанавала б. Калі свайму ўласнаму дзіцяці не прывіць любоў да роднай мовы, для каго ж тады Вы пішаце кніжкі на беларускай мове! Недалёкае мінулае – змаганне за Дом літаратараў, яскравы прыклад, калі з больш пяцісот беларускіх пісьменнікаў прыходзіла на пікет трыццаць сем і менш. Каментарыі не патрэбныя. У адзінай беларускай элітарнай газеце чытаю нататку беларускага пісьменніка, які да гэтага часу шкадуе, што не паспеў у 1991 годзе пераехаць у Вільню. Вось такія сумныя прыклады, і іх можна было б праводзіць бясконца. Таму такі вынік прэзідэнтскіх выбараў 1994 г. Нездарма Беларусь называюць "камуністычным расаднікам", шмат расейскіх адстаўнікоў, большасць з гэтых людзей сумуюць па безпаваротна прайшоўшай маладосці, упэўненыя: "Раней было лепш", калі жылі разам у адзінай, вялікай, магутнай, камуністычнай. Праўда, частка ярых камуністаў перарабілася ў антыкамуністаў. Гэта не страшна, калі неагрэсіўна. Мой любімы пісьменнік Сяргей Даўматаў заўважыў, што пасля камуністаў ён больш за ўсё не пераносіць антыкамуністаў. Гэта было сказана, калі камуністы былі пры ўладзе. Для мяне самыя горшыя "чалавекі", якія нічуць не змяніліся ўнутры, пераўтвараюцца з камуністаў у антыкамуністаў, з ярых атэістаў – у "прыкладных" вернікаў і г.д., прычым, запэўніваюць, што былі такімі заўсёды. Так, былі прыстасаванцамі, не выбіраючымі сродкаў. Мяне цікавіць і хвалюе сучасная і бліжэйшая будучыня. Ужо даўно пара сказаць "не" духоўным гвалтоўнікам. Рана ці позна давядзецца сказаць "хопіць". Так больш жыць нельга. А ў які момант вы скажаце "хопіць" залежыць ад вас, вашай актыўнасці кожнага. Будучыня залежыць не ад таго, з якімі карункачкамі надзець кашулю, а ад гатоўнасці яе надзець. Сапраўднай інтэлігенцыі, якая жадала шчасця народу былі адзінкі на пачатку стагоддзя, адзінкі і зараз, для якіх кірунак дзейнасці – паляпшаць жыццё народа сёння. Яны робяць вялікую справу, іх меншасць, таму і бяруць агонь на сябе за большасць. За імі будучыня.

***Леакадзія Мілаш, Вільня.***

# Імёны на карце Маладзечаншчыны

Салаўіныя гнёзды Меншчыны, месцы, звязаныя з імёнамі літаратараў, паэтаў, музыкантаў, мастакоў. Шмат іх на нашай Маладзечанскай зямлі.

І сёння, калі мы звяртаемся ў думках да светлых постацяў Ядвігіна Ш., Я. Драздовіча, Івана Козела, Фёдара Янкоўскага, невымерна становіцца шкада, што так мала выпала на іх долю спакойна жыць і працаваць дзеля духоўнага ўзвышэння народа, шчасця і яго дабрабыту.

Рознымі шляхамі ўваходзілі яны ў літаратуру, мастацтва. Розным быў іх жыццёвы лёс, але ўсіх іх яднала любоў да роднай Беларусі.

На зямлі, дзе ў купальскі букет
Васількі і рамонкі збіраюць,
Запалілі нябачны той свет,
І пакінулі значна свой след,
Патрыёты радзімага краю.

Вы адзінай эпохі сыны,
Вас краіна адна ўзгадавала,
Аб якой былі мары і сны,
Маладзечаншчына ж аб'яднала.

І на зломе стагоддзя, калі
Зоркі шчасця, свабоды заззялі,
Пачынальнікамі вы былі,
Да прыгожага люд далучалі.

Быў нялёгкі жыццёвы ваш шлях,
Часам праца ажно да знямогі,
Аддаваліся ёй без развяг,
Лёгкай вы не шукалі дарогі.

Сёння мы зазірнем у ваш час,
І пачэснае вам аддадзім,
Паімённа ўспомнім мы вас,
Гэта трэба ўсім нам, жывым.

Так пачынаўся ў зале паседжанняў райвыканкама вусны часопіс, прысвечаны юбілеям года. Ён стаў своеасаблівым вынікам работы раённай бібліятэкі ў краязнаўчым кірунку.

Пачалі перагортваць старонкі часопіса вучні СШ № 1 імя Янкі Купалы Фалей Таццяна, Чаркас Алена, Кашпур Таня і Вараўка Аксана.

Першая "Летуценнік з Карпілаўкі" была прысвечана аднаму з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы Ядвігіну Ш. (Антону Лявіцкаму). Складаным быў яго жыццёвы шлях, няпростай была яго творчая біяграфія. Нарадзіўся ён у 1968 годзе на Рагачоўшчыне, але асноўная частка яго жыцця прайшла ў вёсцы Карпілаўка каля Радашковіч.

Адукацыя Антося пачалася ў дзесяцігадовым узросце ў прыватнай школе, арганізаванай дачкой В.Дуніна-Марцінкевіча Камілай у фальварку Люцынка. Менская гімназія, потым медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Але з універсітэта яго выключаюць, нават кідаюць за краты. Пасля вяртання на Беларусь ён працуе памочнікам аптэкара ў Радашковічах.

Літаратурная дзейнасць пачалася яшчэ ў час зняволення з перакладу апавядання В.Гаршына "Сігнал". Жывучы ў Радашковічах, ён піша п'есы, адна з іх "Злодзей" ставіцца з яго ўдзелам мясцовай інтэлігенцыяй. Доўгі час па зразумелых прычынах Ядвігін Ш. не мог друкавацца на беларускай мове. Першым уласным творам на роднай мове, надрукаваным у газеце "Наша доля" можна лічыць апавяданне "Суд", 1906 г. З таго часу пачаўся яго самы актыўны удзел у развіцці беларускай літаратуры. Пісьменнік устанавіў сувязі з многімі грамадскімі і палітычнымі дзеячамі, актыўна выступаў на старонках беларускага перыядычнага друку. Некаторы час быў загадчыкам літаратурнага аддзела ў газеце "Наша ніва".

Пісьменнік жыў патрабаваннямі і клопатамі эпохі, імкнуўся быць максімальна патрэбным краю. Аб усім гэтым і ўзгадвалі вучаніцы. Галоўны ж акцэнт быў зроблены на сувязь пісьменніка з краем, Маладзечаншчынай. Вельмі выразна і натхнёна прычыталі дзяўчаткі ўрыўкі з апавяданняў, нарысаў.

Публіцыстычныя нататкі "Лісты з дарог" і яго нарыс "Гарадок-Аляхновічы" яскрава прадставілі побыт сялян таго часу мястэчка Гарадок.

Напрыканцы прагучала, стаўшая праграмным творам, алегарычная навэла "Дуб-дзядуля".

Другая старонка вуснага часопіса "Вечны вандроўнік" была прысвечана Язэпу Драздовічу. Мастак з Дзісненшчыны, літаратар, першы беларускі фантаст, незвычайны чалавек. Лёс прывёў яго ў 20-я гады на Маладзечаншчыну. У Радашковічах, цэнтры культуры ў тагачасным рэгіёне, ён адчыняе мастацкую школу. Увесь расповед аб яго жыцці і творчасці, Радашковіцкім перыядзе, на падставе дзённікавага матэрыялу і кніг аб мастаку, вялі акцёры тэатра "Адлюстраванне", добрыя сябры ТБМ і раённай бібліятэкі Барыс Трусій і Ала Кананові́ч.

А сапраўдным падарункам для прысутных стала цікавае, эмацыянальнае выступленне Тамары Габрусь. Старшы навуковы супрацоўнік інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН РБ, аўтар тэксту да альбома "Язэп Драздовіч", яна захапілася Драздовічам вельмі незвычайна. Аб усім гэтым і яшчэ шмат чаго цікавага пачулі прысутныя, яна праводзіла цікавыя паралелі з творчасцю іншых дзеячоў мастацтва, раскрывала філасофію творцы, яго светапогляд.

Да мерапрыемства ў фае экспанавалася выстава выдатнага мастака Мілы Аўчыннікава пад назвай "Сцежкамі Язэпа Драздовіча". Ён быў удзельнікам 3-х пленэраў, прысвечаных Язэпу Драздовічу, выдатны майстра акварэлі. Каля дзесятка прац, прадстаўленых на выставе, дапамаглі прысутным пазнаёміцца з мясцінамі, дзе жыў і працаваў Язэп Драздовіч.

У гісторыі кожнага народа ёсць людзі, якія прыходзяць у самы складаны час, каб сваёй мудрасцю і талентам асвяціць шлях у будучыню, асветліць асноўныя кірункі дзейнасці нацыі. Так пачалі вядучыя Ала Кананові́ч і Валянціна Трусій расповед аб беларускім філолагу, руплівому даследчыку роднага слова Фёдару Міхайлавічу Янкоўскім. 21 верасня яму споўнілася б 80 гадоў. Выхадзец з сям'і малазямельнага селяніна, удзельнік дзвюх войнаў, цяжка паранены на іх. Змог выйсці да вяршынь педагагічнага майстэрства, атрымаць званне прафесара, а самае галоўнае быць прызнаным выдатным педагогам свайго часу.

У Радашковічы ён прыехаў настаўнічаць адразу пасля вайны. Аб гэтым часе падзялілася сваімі ўспамінамі былая вучаніца Фёдара Міхайлавіча бібліятэкар з Радашковіч Алена Сідараўна Кулаковіч. Першае знаёмства з настаўнікам беларускай мовы і літаратуры было ашаламляльным. Не падобны на іншых сваёй адукаванасцю, веданнем літаратуры, гісторыі Беларусі, патрабавальнасцю да сябе і да іншых. Але якой цеплынёй свяціліся яго вочы, калі ён заводзіў размову з простым чалавекам, чуў добрую беларускую гаворку.

Яшчэ жыве ў пасёлку былая настаўніца Ксенія Міхайлаўна Раманоўская, гераіня нарыса "Настаўнікі". Яна часты госць мясцовай бібліятэкі, шчодра дзеліцца ўспамінамі аб сваім былым калегу. Увагай, збанком свежага малака, чым яшчэ магла адарыць маладога, але моцна хворага на той час настаўніка, Фёдара Янкоўскага. Заўсёды цікава размаўляць з гэтай 90-гадовай, але вельмі разумнай і прыемнай жанчынай, якая захавала ў сваёй памяці шмат добрых успамінаў аб Янкоўскім. Вядучыя прачыталі ўрывак з нарыса "Настаўнікі". Коратка пазнаёмілі з творчай спадчынай вучонага. А каля 300 прац, манаграфіі, навучальныя дапаможнікі, падручнікі, артыкулы па беларускім і агульным мовазнаўстве, па культуры мовы. Вобразна сказаў аб ім беларускі пісьменнік Васіль Жуковіч: "Ён мажа як ніхто з лінгвістаў, філолагаў шчыраваў на карысць роднай мовы. І да апошніх гадоў жыцця назапашваў насенне трапнага слова. Сейбітам называлі яго людзі, пад такой назвай і перагарнулі старонку вуснага часопіса зямлякі пісьменніка. А завяршыла яе бібліятэкар Таццяна Закрэўская ўрыўкам з дыптыха В.Жуковіча:

"Быў ён сейбіт, які забываў пра сябе,
Так адданы ўвесь
Запаветнай сяўбе".

Чацвёртая, апошняя старонка была прысвечана нашаму земляку з вёскі Канчаны, драматургу Івану Васільевічу Козелу. Нажаль жыццё яго было кароткім. Нарадзіўся ён у 1928 , а памёр у 1970 годзе.

Скончыўшы філалагічны факультэт БДУ, ён некаторы час працаваў у школах Маладзечанскага раёна. Потым навуковым супрацоўнікам Міністэрства асветы БССР, рэдактарам Менскай студыі навукова-папулярных і хронікадакументальных фільмаў. Спартыўны рэдактар камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР. Такі паслужны спіс Козела – прафесіянала. Як драматург выступіў упершыню з п'есай "Папараць – кветка". Другой п'есай, якая прынесла поспех драматургу, была "Канчане – мае суседзі". Усе п'есы насычаны каларытнымі вобразамі, момантамі беларускага фальклору. І як яскравае падцверджанне таму на сцэне акторамі тэатра "Адлюстраванне" быў пастаўлены адрывак з п'есы "Папараць-кветка", пад кіраўніцтвам рэжысёра Алы Кананові́ч.

Перагорнута апошняя старонка часопіса, якая мела назву "Зямляк, настаўнік, драматург".

Усе ўзгаданыя постаці былі шчырымі сынамі сваёй Радзімы – Беларусі. Заўсёды на людзях і для людзей – такі неад'емны прынцып іх. І скончыць хацелася б словамі Фёдара Янкоўскага, якія былі апошнімі на сустрэчы ў Маладзечанскім райвыканкаме: "Пра сталасць і вартасць народа, нацыі сведчыць не тое, якіх талентаў, якіх геніяў нарадзіў народ, нацыя, а тое, як нацыя, народ ставіцца да сваіх талентаў, геніяў: як народ, нацыя з імі абышліся і абыходзяцца... Жыві, наша Слова .... Як жылі і жыць будуць нашы неацэнныя Францішак Скарына і Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч і Максім Багдановіч, Янка Купала і Якуб Колас. Як жыла і каб жыла, цвіла наша Беларусь".

*Сысун Л.І.*

# Давайце спяваць па-беларуску

Як мы паведамлялі у "НС" за 12 траўня моладзевая арганізацыя ТБМ працуе над выпускам песеннікаў у якіх будуць змешчаны добрыя беларускія песні пад гітару, застольныя, народныя і іншыя, разам з нотамі акордамі і г.д. Але справа гэтая не зусім блізкай перспектывы. БТ і радыё, FM-станцыі актыўна прапагандуюць расейскія песні, як яны называюць – "отечественные". Таму ужо зараз трэба працаваць каб беларусы не спявалі пры нагодзе "Чё те надо...", а ведалі і вучыліся спяваць сваё лепшае. Вось і вырашылі мы у "НС" зрабіць рубрыку ў якой перыядычна будзе размешчана добрая беларуская песня. Даваць нам свае лепшыя песні пагадзіліся беларускія барды з якімі мы размаўлялі. Сёння мы даём дзве песні Андрэя Мельнікава.

Яшчэ раз напамінаем, мы прапануем дасылаць нам у сядзібу Таварыства на адрас 220005 г.Менск, вул. Румянцава, 13 файныя беларускія песні, як напісана вышэй. За лепшыя даслаўшыя іх будуць узнагароджаны прызамі ТБМ.

Алесь Гурыновіч.

*Андрэй Мельнікаў*

**ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСА**

*Em G Am C*
Ад грознага замка – адна толькі вежа.
*Em C H*
Без даху касцёл. Без крыжа царква.
*C G E Am*
Ты – іх гаспадар, гаспадар неабмежаны,
*Am Em H Em*
З дзяцінства прывычны знявагу трываць.
Ты — іх гаспадар, гаспадар неабмежаны,
З дзяцінства прывычны знявагу трываць.

На гэтай зямлі, што крывёю адмечана,
Дзе кожны з каменняў – аб чымсьці ўспамін...
Не Польшча, не Русь, не Жмудзь, не Нямеччына –
Тут наша краіна. І ты – яе сын.
Не Польшча, Не Русь, не Жмудзь, не Нямеччына –
Тут наша краіна. І ты – яе сын.

Дык што ж прымірыўся ты з уладай чужынскаю,
Бязмоўны, бяздзейсны стаіш у журбе?!
Нашчадак ліцвінаў, спіну сваю выпрастай!
Зброя продкаў чакае цябе.
Нашчадак ліцвінаў, спіну сваю выпрастай!
Зброя продкаў чакае цябе.

Кожнаму – праўда ! Кожнаму – воля!
Досыць трымацца за рабскі хаўрус!
У кожным сэрцы хай успыхне полымя!
У кожнай душы хай жыве Беларусь!
У кожным сэрцы хай успыхне полымя!
У кожнай душы хай жыве Беларусь!

Жыве Беларусь.

**КАЗКА**

*Am D*
Як за пушчай, за лесам, за балотам з асакою,
*G C*
У нядобрым месцы каля віра над ракою
*F D*
Стаіць хата. У хаце той – мая каханая жыве.
*E Am*
Навакольны люд заве вядзьмаркаю яе.

*Am D E Am*
Дзверы адчыні, каханая мая!
*Am D G C*
У сэрцы ў глыбіні, каханая мая,
*Am D E F*
Запалі агні. Каханая мая,
*D E Am*
Падары мне сына! *(2 разы)*

Па начох па-над хаткай цягнецца дымок,
Беражы сваю маці, сцеражыся, панок!
Не хадзі да рэчкі! Не хадзі да хаткі той!
Бо нячыста сіла авалодае табой.

Дзверы адчыні, каханая мая *і г.д.*

Лешакі сакочуць, пачвары равуць,
Па чаротах русалкі арыі пяюць,
Совы разгукаліся, вые ваўкалак...
А мы ў хаце з ведзьмай. І я цяпер – вядзьмак.

Дзверы адчыні *і г.д.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні .
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 5. 07. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 1889 .
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 40 000 руб., 3 мес.- 120 000 руб.
*Кошт у розніцу:* 10 000 руб.